Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь
Беларускі інстытут праблем культуры

А.А. Трусаў

# БЕЛАРУСКАЕ КАФЛЯРСТВА

Мінск 1993



Вялікае значэнне ў дэкаратыўным аздабленні інтэр'ераў беларускіх манументальных грамадзянскіх і сакральных збудаванняў, пачынаючы з XV ст., мела кафля. Трэба адзначыць, што некаторыя беларускія даследчыкі, перакладаючы рускае слова "изразец" як "кафля", памылкова называлі "кафляй" паліваныя керамічныя фасадныя пліткі, уласцівыя гродзенскай архітэктурнай школе XII ст., а таксама паліваныя пліткі падлогі, якія ўжываліся на тэрыторыі Беларусі ў XI—XII стст.

У рускай літаратуры "изразцами" называюць розныя віды архітэктурна-дэкаратыўнай керамікі: паліваныя і тэракотавыя керамічныя пліткі для аздаблення фасадаў будынкаў без румпы; вырабы, падобныя да беларускай пячной кафлі з румпай, што таксама ўпрыгожвалі фасады бажніц і палацаў; пячную кафлю, з якой выкладаліся паверхні печаў у канцы XVI—XX стст. [1] (апошняя мае таксама назву "кафель", запазычаную, магчыма, з беларускай мовы).

Вытворчасць і ўжыванне кафлі былі шырока распаўсюджаны на тэрыторыі Беларусі. Дастаткова сказаць, што ні адзін будынак, замак або палац, сядзіба заможнага ўладара або ратуша, карчма ці нават сялянская хата ў XIX— пачатку XX ст. не абыходзіліся без печаў, аздобленых кафляй. Кафляй самых розных тыпаў, памераў, колераў, багата дэкараванай выяўленчымі матывамі, сюжэтамі, падпарадкаванымі грамадскім уяўленням часу, стылявым асаблівасцям і густам насельніцтва, укладу яго жыцця. Бясспрэчна, што такое месца кафля заняла дзякуючы ролі печы, якую яна займала ў жыцці чалавека. А яна не толькі гаспадарчая: захаванне агню, прыгатаванне ежы, ацяпленне памяшкання. Пабудова печы, як сведчаць старажытныя паданні і абрады, была звязана з унутраным светапоглядам чалавека, з яго верай у светлыя і цёмныя сілы. Відавочна і

тое, што печ (яе мастацкае ўвасабленне) цесна спалучалася з жылым асяроддзем: архітэктурай, дэкаратыўна-прыкладным мастацтвам, вопраткай.

Першыя вядомыя нам кафлі на тэрыторыі Беларусі належаць да самага пачатку XIV ст. Яны знойдзены ў час археалагічных раскопаў у Полацку, Лідзе, Навагрудку і маюць баначна-цыліндрычнае тулава вышынёй 21—24 см (10—14 см у дыяметры). Гліняная маса іх нятлустая, з дамешкамі жарствы ці жвіру. На паверхні сценак відаць кругавыя налепы, на донцы — прыліплы жвір. Выраблялія кафлі метадам ляпной тэхнікі, пасля чаго іх падпраўлялі на прымітыўным маларухомым ганчарным крузе і абпальвалі на адкрытым агні. Такія кафлі выконвалі толькі тэхнічныя функцыі: павышалі цеплааддачу, аблягчалі канструкцыю, спрыялі ўстойлівасці печы да тэрмічных перападаў. Некаторыя кафлі XIV ст. на сваіх донцах мелі ганчарныя клеймы.

Патрэба ў кафлі спрыяла станаўленню ганчарнай вытворчасці і стварала ўмовы для далейшага развіцця кафлярства. Яна задавальнялася не столькі за кошт узнікнення новых ганчарных майстэрняў, колькі за кошт павышэння прадукцыйнасці працы ўжо існуючых. Гэта прымушала ўдасканальваць прылады працы, тэхналогію вытворчасці, майстэрства выпрацоўкі.

На працягу XIV і XV стагоддзяў бачны хаця і марудныя, але ўпартыя, няспынныя пошукі і вынаходніцтвы не толькі ў вытворчасці, але і ў канструкцыі самой кафлі. Ад адзінкавых, умураваных у глінабітную печ кафляў-гаршкоў пачаўся пераход да печаў, поўнасцю складзеных з кафлі. Гліна — асноўны напаўняльнік канструкцыі і будаўнічы матэрыял, цяпер прымяняецца як звязваючая маса паміж кафлямі. Жаданне шчыльней паставіць цыліндрычныя кафлі з круглым вусцем адну да аднае вымушала мяняць іх форму.

Адфармаваныя персцянёва-налепным спосабам з дапамогай маларухомага круга з грубай малапластычнай масы цыліндрычныя кафлі з круглым вусцем не паддаваліся наступнай механічнай апрацоўцы. Менавіта з гэтага перыяду, на працягу некалькіх стагоддзяў, крок за крокам вядуцца пошукі пераадольвання статычнасці векавых устояў ляпной керамікі.

Мы бачым, як круглае вусце то ледзь-ледзь угінаецца, то да яго робяцца налепы альбо спалучаюцца прагібы з налепамі. Толькі адмаўленне ад грубай масы, пераход да больш тонкай і пластычнай дазваляюць надаваць вусцю выразны трох- ці чатырохпялёсткавы малюнак, абрысы раўнабедранага трохкутніка ці квадрата. З'яўляецца мноства розных варыянтаў гаршковай кафлі ад высокіх і вузкіх да шырокіх і нізкіх. Узнікаюць кафлі так званага міскавага, талеркавага і іншых тыпаў.

Цяга да дасканаласці апрацоўкі і падгонкі формаў кафлі адна да адной, выраўноўвання сценак і памераў прымушае ўжываць драўляныя формы, з дапамогай якіх ганчарнай загатоўцы надавалася тое ці іншае (трохкутнае або квадратнае) вусце. У выніку кафля набывала выгляд стандартызаванай будаўнічай адзінкі — модуля. Выкарыстоўваючы кафлю як камбінаторны элемент, спалучаючы тыя ці іншыя тыпы ў пэўным парадку і колькасці, народныя майстры стваралі печы самых розных кампазіцыйных рашэнняў, падпарадкоўваючы іх архітэктурнаму асяроддзю. Ужо на гэтай ступені развіцця адчуваецца мастацкае асэнсаванне, якое дазволіла па-новаму ўбачыць ролю печы ў інтэр'еры, бо яна набыла не толькі ўтылітарна функцыянальную, але і грамадзянска мастацкую функцыю.

Печы, складзеныя з кафлі, пачалі ўносіць у вырашэнне інтэр'ераў мастацкі духоўна-вобразны змест, займаць вядучае кампазіцыйнае гучанне. Як бы падводзячы рысу пошукам гэтага перыяду, на мяжы XV — XVI ст. пачынае ўжывацца паліва, якая ўзбагаціла мастацкую палітру кафлі, палепшыла яе ўтылітарныя якасці, надала кафлі большую каштоўнасць.

Увага да выяўленчых сродкаў, пошук мастацкай мовы не маглі прайсці без рэканструкцыі формы кафлі, якая і адбываецца ў канцы XV — пачатку XVI ст. Асновай такой перабудовы паслужылі міскавыя і талеркавыя кафлі з традыцыйнымі для ганчарных вырабаў малюнкамі на дне ў выглядзе прамых ці хвалістых ліній альбо слядоў ад пальцаў рук пасля апрацоўкі на крузе. На дне такой кафлі было зручна рабіць узоры, бо яе невысокія борцікі не перашкаджалі гэтаму. Але такую кафлю было нязручна мацаваць у будове

печы. Менавіта тады і пачалі да донца прырабляць так званую "румпу" — гліняны цыліндрык такога ж дыяметру, зроблены на ганчарным крузе.

У выніку з'яўляецца новы тып кафлі, так званы "каробкавы", дзе дно кафлі ранейшага тыпу наблізілася да вусця, а венца вусця стала выконваць ролю высокай рамкі. Па баках румпы рабіліся дзіркі для ўмацавання кафлі ў сценцы печы. Наблізіўшыся да вонкавай паверхні, ранейшае дно зрабілася вонкавай пласцінаю з нанесеным на яе паверхню малюнкам.

Неабходна падкрэсліць, што на Беларусі працэс пераходу ад гаршковай да каробкавай кафлі ішоў паволі, на працягу XV — першай паловы XVI ст. Прычым ужывалася гаршковая кафля і пазней, у XVII і, магчыма, у пачатку XVIII ст., асабліва ў вясковай мясцовасці. Спачатку рэльефная гаршковая кафля выраблялася толькі ў буйных беларускіх рамёсных асяродках, дзе кафляры былі добра знаёмы з тэхналогіяй вырабаў тэракотавай, а потым і паліванай кафлі ў гарадах Заходняй Еўропы.

Самыя старажытныя экземпляры каробкавай кафлі былі знойдзены П.А. Рапапортам падчас раскопак княскага палаца ў Полацку. Вонкавая паверхня гэтай кафлі мае квадратныя або прамавугольныя абрысы. Памеры вонкавай пласціны нязначныя, даўжыня не больш чым 10 см. Яна аздоблена высокімі рэльефнымі выявамі фантастычных цмокаў або чалавечых фігур [2].

У першую чаргу трэба адзначыць фрагмент непаліванай безрамачнай кафлі з выявай галавы скамароха [3]. Гэта першая вядомая нам антрапалагічная выява на беларускай кафлі, уласцівая для познегатычнага мастацтва. У Полацку таксама знойдзена кафля, вонкавая пласціна якой мае выяву фляйціста. Датуецца яна канцом XV — першай паловай XVI ст. [4]. Гэты тып кафлі існаваў да сярэдзіны XVI ст. Такая кафля з квадратнымі знешнімі абрысамі і адтулінай румпы (14 x 14 x 14 см) з пачатку XVI ст. вядома на тэрыторыі Літвы і згадваецца ў публікацыях С. Абрамаўскаса.

Вялікім попытам карысталіся кафлі, палітыя глазурай, якая надавала вырабам большую трываласць, яны лепш адпавядалі гігіенічным патрабаванням, мелі большае мас-

тацкае ўздзеянне за кошт колеру і бляску. Склад глазуры трымаўся ў сакрэце, а майстар, які яго ведаў, карыстаўся пашанай і лічыўся лепшым сярод ганчароў. З канца XV ст. спачатку для посуду, а потым і для кафлі ўжываецца свінцовая глазура.

Адфармаваная ў глінянай, а пазней і ў драўлянай форме, і добра высушаная кафля змазвалася "шлімфай" — спецыяльна разведзеным клейсцерам, дзёгцем ці іншым клейкім рэчывам і адразу праз "пытлік" — дробнае сіцечка, прысыпалася сухой глазурай, складзенай з перапаленага свінцу, рачнога пяску і глею. Для колеру ў шыхту дадавалі вокіс медзі, які пасля абпальвання надаваў вырабам празрысты зялёны колер. Такія кафлі атрымалі назву "мураўлёных" — за падабенства з колерам травы.

Ужыванне зялёнай палівы спрыяла з'яўленню новых мастацкіх вобразаў, дзе колер гучаў зладжана з тэматыкай і падкрэсліваў сюжэты. Больш таго, зялёныя фарбы спрыялі стварэнню ў жыллёвым асяроддзі своеасаблівай заспакаяльна-псіхалагічнай атмасферы і ў той жа час вылучалі чалавека, каларыстычны строй ягонай вопраткі, дзе зялёны колер дапасуецца да чырвонага, характэрнага для дэкаратыўнага ўпрыгожвання народных строяў.

Першая, найбольш старажытная паліваная кафля, знойдзеная на Беларусі, датуецца канцом XV — першай паловай XVI ст.

Падчас раскопак былога вялікага княскага палаца ў Вільні, што некалі стаяў на тэрыторыі Ніжняга замка, у слаях XV ст. акрамя міскавай непаліванай гаршковай кафлі знойдзена і каробкавая. Вонкавая пласціна гэтых кафлін аздоблена выявай шчыта з гербам альбо раслінным арнаментам. Некаторыя кафлі (іх няшмат) пакрыты палівай зялёнага, жоўтага альбо бурага колеру. Таксама знойдзены 4 кавалкі керамічных плітак з рэльефным малюнкам, што выкарыстоўваліся для аздаблення сцен палаца [5].

Цікавая зялёнапаліваная кафля з выявай анёла (датуецца канцом XV — першай паловай XVI ст.) знойдзена на паселішчы каля вёскі Берагаўцы Шчучынскага раёна [6].

Вельмі цікавую кафлю з выявамі пешых і конных вояў, пакрытую цёмна-зялёнай палівай квадратнай формы,

знайшоў Г. В. Штыхаў на паселішчы каля вёскі Гарадзішча Мінскага раёна. Па краях вонкавай пласціны праходзіць надпіс кірыліцай, дзе можна прачытаць словы "... К великому Новугороду ..." [7]. Г. В. Штыхаў датуе гэтую кафлю XVII ст., аднак, на нашу думку, яна больш ранняя і належыць да першай паловы XVI ст. У якасці аргумента можна прывесці невялікія памеры вонкавай пласціны (прыкладна 13,5 x 13,5 см) і адсутнасць у вояў на малюнку вогнястрэльнай зброі, вельмі ўласцівай для выяў XVII ст.

Зялёная паліваная кафля першай паловы XVI ст. з круглай румпай з насечкамі і рэльефнай вонкавай пласцінай знойдзены ў часе будаўнічых прац у Мінску. Варта адзначыць, што глыбокімі насечкамі ў выглядзе сеткі (зроблены вострай трэскай па сырой гліне для лепшага мацавання кафліны ў абліцоўцы печы) пакрыты і бакі румпаў мазырскай паліванай кафлі з развалу печы сярэдзіны XVI ст., знойдзенай намі пры раскопках на Замкавай гары.

Менавіта ў гэты час (сярэдзіна — другая палова XVI ст.) на Беларусі з'яўляецца кафля з партрэтнымі выявамі. Такая кафля знойдзена ў выніку археалагічных раскопак у Лагойску, Заслаўі, Мінску, Гродне, Дзяржынску, Полацку, Маладзечне і Мазыры.

Па памерах, форме і характары выяў "партрэтную" кафлю можна падзяліць на тры групы, якія прадстаўлены тэракотавымі і зялёнапаліванымі экземплярамі.

Да першай групы можна аднесці прамавугольную кафлю, на якой ёсць паясная выява сталага мужчыны з барадою (або маладой жанчыны) у рэнесансных строях, упісаная ў вялікі арачны праём. Кафлі з выявай мужчыны маюць абрэвіятуру AMHIB, якая пакуль не расшыфравана.

"Партрэтная" кафля другой групы ўпрыгожана профільнай выявай барадатага мужчыны ў рэнесансным берэце і мае квадратныя памеры. Гэты сюжэт беларускія кафляры маглі запазычыць у італьянскіх майстроў-керамістаў з г. Фаэнцы. Менавіта такая ж выява ёсць на адной з талерак 1531 г., што захоўваецца ў Эрмітажы [8] (г.Санкт-Пецярбург).

Кафлі трэцяй групы знойдзены пакуль толькі ў Гродне і Мінску. На іх вонкавай пласціне з двухпрыступкавай рам-

кай па краях маецца малюнак чалавека ў профіль, які трымае ў руках рэчы, падобныя да атрыбутаў каралеўскай або імператарскай улады (дзяржава і скіпетр).

Кафлю, падобную на экземпляры першай і другой групаў, археолагі знайшлі падчас раскопак у Вільнюсе і Клайпедзе. Літоўскі археолаг А. Таўтавічус выказаў меркаванне, што на кафлях адлюстраваны члены каралеўскай сям'і [9]. У сваю чаргу, беларускія даследчыкі Ю. Заяц і В. Ляўко спрабуюць атаясамляць некаторыя партрэтныя кафлі з раскопак у Заслаўі, Мінску і Вільнюсе з выявай асобы ўладальніка Заслаўя Яна Глебавіча [10].

На наш погляд, меркаванні вышэйзгаданых даследчыкаў памылковыя, бо кафлі з падобнымі выявамі вядомыя на тэрыторыі Польшчы і іншых еўрапейскіх краін. Хутчэй за ўсё мы маем справу з мясцовымі інтэрпрэтацыямі агульнаеўрапейскага рэнесанснага сюжэту.

У першай палове XVI стагоддзя беларускія кафляры авалодалі высокім мастацтвам вырабу шматколернай паліхромнай кафлі. Вытворчасць такой кафлі была нятаннай, печку з паліхромнай кафлі мог мець толькі вельмі заможны чалавек. Таму і знаходзяць такую кафлю пры раскопках магнацкіх палацаў або дамоў заможных гандляроў ды рамеснікаў.

Адкуль трапіла паліхромная кафля ў Беларусь, адказаць цяжка, але несумненна, што гэта была адна са шматлікіх плыняў італьянскага Адраджэння, якія дайшлі да Беларусі ў пачатку XVI ст. Мы бачым не імгненна створаную вытворчасць, а яе паступовы рух. Гэта рысы так званай "мецца-керамікі" — пераход да белага колеру пры дапамозе надглазурных ангобных пакрыццяў. Да гэтага тыпу належаць кафлі, пакрытыя зялёнай палівай на белай ангобнай падкладцы, што прыдавала глазуры большую насычанасць і яркасць. Шмат такіх кафляў знойдзена ў Полацку. Пры гэтым варта адзначыць паступовае ўжыванне белай заглушанай глазуры разам з празрыстымі зялёнымі палівамі і, нарэшце, кафлі з рэльефнымі малюнкамі, вельмі часта яшчэ з ангобным белым пакрыццем, размалёванай каляровымі эмалямі.

Каларыт складаўся з белага, жоўтага, светлага і цёмназялёнага, блакітнага, цёмна-сіняга і карычневага колераў.

Вельмі паказальна і тое, што сюжэты малюнкаў, размалёваных фарбамі, на першым часе паўтаралі старыя выявы на тэракотавай кафлі альбо адпавядалі мінуламу "мураўлёнаму" перыяду.

Так, у часе земляных прац у 1931 г. на тэрыторыі былога замчышча ў Воршы знойдзены рэшткі вытворчасці паліхромнай кафлі. Былі сабраны тыглі, льячкі са шклопадобнай масы, недаробленыя, бітыя і цэлыя кафлі. Усе яны пакрыты блакітнай, жоўтай, сіняй і карычневай глазурамі. Іх вонкавыя пласціны ўпрыгожвалі выявы вершнікаў, чалавека з канём, мядзведзя, каня і іншых жывёл. Частка кафляў аздоблена раслінным арнаментам (малюнкі васількоў, рамонкаў альбо сланечніка). Знойдзеныя побач манеты сведчаць, што гэта майстэрня існавала ў XVI ст. [11].

Самая старажытная, вядомая нам паліхромная кафля знойдзена ў г. Друі. Яе вонкавая пласціна выканана ў тэхніцы высокага рэльефу і аздоблена выявай мадонны з немаўляткам. Барэльеф выявы пакрыты белай глухой, жоўтай і светла-зялёнай празрыстай палівамі. Датуецца выраб першай паловай XVI ст. [12].

Аналагічныя кафлі знойдзены М.А. Ткачовым падчас раскопак у Мядзельскім замку. Гэта фрагменты вялікай паўцыркульнай кафлі, упрыгожанай рэльефным біблейскім сюжэтам (выява Ісуса Хрыста, над галавой якога лунае Святы Дух у выглядзе белага голуба), квадратная альбо гзымсавая кафлі markup рознай формы з выявамі кветак ці кругоў [13]. Яны цікавыя тым, што тут спалучаюцца празрыстыя глазуры і белая эмаль. Значную калекцыю паліхромнай кафлі гэтага часу сабраў Г. Сагановіч пры раскопках замчышча ў вёсцы Гарадок Маладзечанскага раёна. Найбольшую каштоўнасць уяўляе кафля з чалавечымі выявамі [14].

Падобныя кафлі знойдзены літоўскімі археолагамі ў Клайпедзе. Яны зроблены ў 1520—1540 гг. [15]. Да гэтага ж часу належаць першыя знаходкі паліхромнай кафлі ў Вільні. У развале мураванага будынка, разбуранага ў 1551 г., знойдзены кафлі з вельмі выпуклым рэльефам, палітыя зялёнай, жоўтай, белай і карычневай глазурай. Яны аздоблены гратэскавым і геральдычнымі сюжэтамі [16].

Росквіт вытворчасці паліванай кафлі на Беларусі прыходзіцца на другую палову XVI — першую палову XVII ст. У гэты час, асабліва ў другой палове XVI ст., міскавая, гаршковая кафля ўсё часцей знутры пакрываецца зялёнай палівай. У якасці прыклада прывядзем лідскую і гродзенскую гаршковыя кафлі. Міскавая гаршковая кафля з раскопак у Лідскім замку мае памер вусця 16 — 16,6 х 16 — 16,5 см. Бакавыя сценкі маюць барозны, абпал добры, донца гладкае, кафля зрэзана з ганчарнага круга ніткай. Аналагічныя кафлі, але меншых памераў (дыяметр вусця 12,5 х 12,5 см, дыяметр донца — 7,5 см) знойдзены падчас нашых раскопак на Старым Замку ў Гродне. У другой палове XVI ст. некаторыя міскавыя кафлі ў Гродне таксама знутры паліваліся зялёнай палівай. Аналагічныя па памерах і вышыні міскавыя кафлі, якія зрэдку былі паліты зялёнай або карычневай ці жоўтай палівай, уласцівыя для тагачасных печаў Латвіі [17].

Таксама існавалі камбінаваныя печы, дзе ніжні ярус складаўся з міскавай кафлі, а верхні — з каробкавай. Развал такой печы сярэдзіны — другой паловы XVI ст. мы знайшлі на тэрыторыі Лідскага замка. Печка мела прамавугольны ў плане под памерам 1,6 х 1,4 м, зроблены з камянёў і бітай цэглы на гліне. Захаваўся след ад слупа, на якім, верагодна, трымалася канструкцыя печы. Гэта адтуліна глыбінёю 50 см і дыяметрам 20 см. Рэшткі такой жа камбінаванай печы сярэдзіны XVI ст. адкапаны намі і ў Мазыры. Магчыма, падобныя печы існавалі і ў Заслаўскім замку [18].

З сярэдзіны XVI ст. асаблівая ўвага надаецца зместу рэльефаў. Усе тыпы кафляў, нават маленькія перамычкі, аздабляюцца рэльефамі. Знікае выпадковасць тэмаў, нават назіраецца кананізацыя некаторых сюжэтаў. Увасобленыя ў трывалым керамічным матэрыяле, дзе малюнкі павінны быць актуальнымі на працягу існавання печы, ад 10—20 да 100 і болей гадоў, яны нясуць вечны, агульначалавечы сэнс. Побач з выкарыстаннем раней распрацаваных геаметрычных арнаментальных матываў з сімвалічным гучаннем з'яўляюцца міфалагічныя сюжэты з фальклорнымі персанажамі, экзатычнымі жывёламі, кентаўрамі, дзівоснымі раслінамі, рэлігійнымі атрыбутамі.

Шмат тэмаў становяцца дамінуючымі, існуюць у

вытворчасці не адно стагоддзе, увесь час набываючы новыя рысы, новую сімволіку і змест. Так, тэма квадрата ўпершыню загучала яшчэ ў XV ст. Кафлі ў выглядзе квадрата ці ўпрыгожаныя малюнкам у квадраце надзяляліся сімвалічным значэннем: дому, парадку, спакою. Спалучэнне некалькіх квадратаў, квадрата і круга, квадрата і салярнага знака рабілі вобраз больш складаным, апавядальным. Спалучэнне квадрата ў квадраце магло азначаць адзінства сямейнай традыцыі, квадрата і салярнага знака — дабрабыт. У канцы XVI — пачатку XVII ст. кампазіцыя ўскладняецца, тыя ж элементы падпарадкоўваюцца чатырохчленнай сіметрыі, становяцца драбнейшымі. Квадраты паступова насычаюцца раслiннымі матывамі, літарамі. У першай палове XVII ст. чатырохчленная схема перарастае ў арнамент сеткавага тыпу, дзе сетка квадратаў спалучаецца з кропкамі, зоркамі, кветкамі, мае больш дынамічны рух за кошт размяшчэння квадратаў па дыяганалі. Выраблялі кафлі з малюнкам квадратаў і ў XIX — пачатку XX ст., дзе квадрат пераплятаецца з роўназначным па велічыні раслінным арнаментам.

Для другой паловы XVI ст. уласціва паліваная і непаліваная кафля, квадратная вонкавая пласціна якой аздоблена высокім рэльефам у выглядзе круга, упісанага ў нешырокую рамку. Адпаведная кафля знойдзена ў Лідзе, Гродне, Мазыры і Заслаўі.

Сярод антрапаморфных кафляў другой паловы XVI ст. асобнае месца займае паліхромная кафля з раскопак, праведзеных аўтарам у 1988 годзе на Старым Замку ў Гродне. Гэта вялікі фрагмент паясовай кафлі з выявай двух воінаў у рэнесансным уборы. Адзін з іх трымае ў руках дзіду, а другі — меч, альбо корд. Сцянную кафлю з гэтай жа печы аздабляў малюнак мужчынскага бюста ў лаўровым вянку. Выява мужчынскай галавы пададзена ў профіль, прычым яна займае цэнтральную частку вонкавай пласціны і ўпісана ў круг. У кутах знаходзяцца выявы львоў і двухгаловых арлоў.

Неад'емнай часткай інтэр'ераў самых шыкоўных магнацкіх і княскіх палацаў становіцца двух'ярусная кафельная печ. Вонкавае люстэрка печаў гэтага часу набывае складанае мастацка-філасофскае гучанне, на фоне геаметрычных тыпаў

асобных кафляных радоў робяцца пануючымі сюжэтныя матывы рэалістычна-выяўленчага характару.

З канца XVI па сярэдзіну XVII стагоддзяў дасягнула свайго найбольшага росквіту вытворчасць паліхромнай кафлі. Менавіта да гэтых часоў належаць знаходкі паліхромнай кафлі, выяўленыя археолагамі ў Мінску, Гродзенскім, Мірскім і Гальшанскім замках, Мсціславе, Магілёве, Полацку, Воршы, Гродне, Пінску, Крычаве, Віцебску, Слоніме, Нясвіжы і Заслаўі. Мы бачым не імгненна ўзніклую вытворчасць, а яе паступовы рух. Гэта спачатку рысы так званай "меццакерамікі" — пераход да белага колеру за кошт ужытку падглазурных ангобных пакрыццяў. Потым назіраецца выкарыстанне белай заглушанай глазуры разам з празрыстымі зялёнымі палівамі і, нарэшце, выраб-ляюцца кафлі з рэльефным малюнкам, вельмі часта яшчэ з ангобным белым пакрыццём, размаляваныя каляровымі эмалямі.

Каларыт складаўся з белага, жоўтага, светла- і цёмна-зялёнага, блакітнага, цёмна-сіняга і карычневага колераў. Паказальна і тое, што спачатку сюжэты малюнкаў, размаляваных фарбамі, яшчэ старыя, традыцыйныя. Вытворчасць паліхромнай кафлі была разлічана на масавы наклад. Як і раней, у драўлянай форме адціскалася вонкавая пласціна з невысокім дэкаратыўным рэльефам, з тыльнага боку да яе прымацоўвалася ганчарная румпа, але на вонкавую паверхню паверх рэльефу часта наносілася ангобнае пакрыццё і пасля гэтага рэльеф размалёўваўся каляровымі глазурамі. Каб палепшыць якасць глазурных пакрыццяў, часта прымяняўся двухразовы абпал, дзе тэракотавыя кафлі, зробленыя ў той жа форме, што і каляровыя, крыху большыя па памеры, што сведчыць пра ўсадку пад час другой тэрмічнай апрацоўкі.

Называлі паліхромную кафлю "цаніннаю" альбо "кунштоўнаю", "цаніннаю" — з-за назвы вокісу волава "цыны", што надавала глазуры заглушаны белы колер, а "кунштоўнаю" — з-за яе высокага кошту, якога вымагала складаная тэхналогія, сыравіна, высокі ўзровень майстэрства і, безумоўна, мастацкі выгляд. Набыць такую кафлю мог толькі багаты чалавек. Таму яна ўпрыгожвала самыя замож-

ныя палацы і замкі, уносіла ў інтэр'ер каляровую поліфанію, дзе толькі шыкоўныя, багата дэкараваныя гліняныя вырабы маглі стасавацца са стылявым асяроддзем магнацкіх інтэр'ераў. Але разам з паліванымі рабіліся кафлі і непаліваныя "тэракотавыя", больш танныя. У мэтах эканоміі нярэдка выкарыстоўваліся ў адной печы розныя кафліны: паліваныя клаліся на галоўных, добра бачных месцах, а ў астатніх глухіх кутках змяшчаліся тэракотавыя.

Рэшткі шыкоўных кафляных печаў, складзеных з паліхромных кафляў канца XVI — пачатку XVII ст., вывучаны намі ў часе раскопак Мірскага замка. Сабраныя ўсе тыпы тагачаснага пячнога набору: сцянныя, палавінныя, вугла-выя, паясавыя, гзымсавыя кафлі, каронкі альбо гарадкі, каф-ля-дахоўка, якою пакрывалі купалы печаў, ды іншыя. На адной з каронак ёсць дата — 1583 г.

Асноўную паверхню печаў складалі кафлі, аздобленыя разнастайным раслінным арнаментам, а ў цэнтральнай частцы ўмуроўваліся геральдычныя кафлі з выявамі герба князёў Радзівілаў — гаспадароў замка. На выраб мірскіх кафляў ішла белая прыглушаная глазура, сіняя глухая — кобальтавая, цёмна-карычневая — марганцавая, глухая жоўтая — зафарбаваная вокіслам сурмы, светла-зялёная — сумесь жоўтай і сіняй. Выразнасць малюнка падкрэсліваў рэльеф. Паліхромныя кафлі першай паловы XVII ст., падобныя на мірскія, знойдзены І. М. Чарняўскім у Гальшанскім замку. Яны вылучаюцца выявамі з манаграмамі Сапегаў.

Варта адзначыць, што інтэр'еры магнацкіх палацаў аздаблялі паліваныя кафлі-медальёны з выявамі гербаў уладальнікаў. Такія кафлі — і зялёнапаліваныя, і паліхромныя знойдзены намі падчас раскопак Мірскага замка.

Апошнім часам археолагі знайшлі і рэшткі ганчарных горнаў, дзе абпальвалася паліваная і паліхромная кафля.

У часе будаўнічых прац на старажытнай вуліцы Мінска Нямізе побач з помнікам архітэктуры XVII ст. — Петрапаўлаўскай царквой — на глыбіні 1,7 м коўш экскаватара зачапіў завал бярвенняў. Калі археолагі пад кіраўніцтвам В. Собаля разабралі завал, то пад ім аказаліся рэшткі глінабітнага ганчарнага горана з цэглаю, бітаю і перапаленай кафляй, упрыгожанай геаметрычным і раслінным ар-

наментам. На некаторых вырабах відаць плямы зялёнай палівы. Вакол горана валялася шмат кавалкаў глазураванага і тэракотавага посуду, часткі глінянай формы для выпрацоўкі кафлі. Знаходка глінабітнага горана — рэдкая, унікальная з'ява. Гэта "выляпленае" з гліны-сырцу даволі кволае збудаванне выкарыстоўвалася для абпальвання прадукцыі ганчарных рамёсных майстэрань. Горан быў цыліндрычным, дасягаў амаль метра і меў дзве камеры: ніжнюю — топку з 14 прадухамі ў скляпенні і верхнюю — з праёмам для загрузкі і выгрузкі вырабаў. Унутраная паверхня печы абпальвалася, відаць, разам з вырабамі, а знешняя заставалася неабпаленай і знаходзілася ў зямлі.

Знаходка горана (датуецца сярэдзінай — канцом XVI ст.) раскрыла перад даследчыкамі таямніцу мясцовай сярэдневяковай керамічнай вытворчасці, менавіта вытворчасці кафлі, яе тэхналагічных і мастацкіх дасягненняў.

Рэшткі аналагічнага ганчарнага горана былі знойдзены В. Зайцавай у 1986 г. у г. Друі. Пабудова кепска захавалася, але ўдалося прасачыць яго дыяметр у памеры крыху больш за 2 м. У пабудове горана выкарыстана цэгла і камяні розных памераў [19].

Паліхромныя мсціслаўскія кафлі XVII ст. вырабляліся ў тых жа матрыцах, што і зялёнапаліваныя, і тэракотавыя, пра што сведчыць аднолькавы рэльеф. Яны абпальваліся побач у адным горане, гэта пацвярджаюць плямы зялёнай палівы на румпе. Колькасны спектральны аналіз палівы, зроблены ў ленінградскім аддзяленні Інстытута археалогіі АН СССР У.А. Галібіным, паказаў, што пасля абпалу кафлі пакрывалі слоем свінцова-алавянай палівы, дзе $SiO_2$ + PbO — шклоўтваральныя элементы, а двухвокіс волава выконвае ролю глушыцеля. Мсціслаўскія майстры выкарыстоўвалі традыцыйныя фарбавальнікі: $Fe_2O_3$ (жоўты), CuO (зялёны), $SnO_2$ (белы, глушыцель), CoO (сіні), MgO (фіялетавы, цёмна-карычневы) [20].

У канцы XVI — першай палове XVII ст. на Беларусі атрымала шырокае распаўсюджванне паліваная кафля з выявай галавы амура або анёла з крылцамі, а зрэдку і іх фігур. У гэты ж час шырока ўжываецца гзымсавая і сцянная кафля, на якой ёсць выява чалавека на кані (вершніка). Значная

колькасць кафлі з гэтай серыі звязана з адлюстраваннем герба Вялікага княства Літоўскага — "Пагоні". Такая кафля знойдзена ў Гродне, Мірскім замку, Магілёве, Заслаўі, Друі і іншых гарадах Беларусі. Другая група беларускай кафлі мае розныя варыянты выявы святога Юрыя (Георгія)-Пераможцы. Найбольш раннія кафлі з гэтым малюнкам знойдзены на тэрыторыі Мірскага замка і датуюцца другой паловай XVI ст. Фігура вершніка і асабліва каня пададзена ў познерэнесансных (маньерыстычных) традыцыях.

Кафлі з Магілёва і Мсціслава (першая палова — сярэдзіна XVII ст.) вылучаюцца барокавай трактоўкай сюжэту. Найбольш арыгінальная мсціслаўская кафля. Выява асілка на кані, які дзідай забівае цмока і вызваляе з палону прыгажуню-царэўну, мае непасрэдныя аналагі ў беларускім жывапісе XVIII ст. і народнай батлейцы XIX ст.

Узброены вершнік з шабляй, пікай і пісталетам адлюстраваны на кафлі XVII ст. з Заслаўя. У 1988 г. археолаг І. Сінчук знайшоў у Магілёве фрагмент паліхромнай кафлі XVII ст. На ёй — малюнак амазонкі, якая страляе з лука. Да сярэдзіны XVII ст. можна аднесці малюнак пешага воіна, упісанага ў васьмігранную рамку на мсціслаўскай кафлі. Постаць воіна з шабляй у выцягнутай руцэ, упісаная ў паўцыркульную арку, вакол якой размешчаны гірлянды расліннага арнаменту, — такі сюжэт зялёных паліваных кафляў з раскопак І. Сінчука і З. Яцкевіча ў Магілёве [21].

Паліхромная беларуская кафля ў XVII ст. паступова трапляе ў Маскоўскую дзяржаву, не знаёмую да гэтага часу з паліхромнай ганчарнай вытворчасцю. Даследчыкі лічаць, што майстры, якія аздобілі паліхромнай кафляй з раслінным арнаментам фасады царквы Св. Тройцы ў Нікітніках (збудавана ў 1635 годзе ў Маскве), паходзяць з Беларусі. Пра гэта сведчаць кампазіцыя і прамалёўка арнаменту і каляровая гама палівы (бірузовая зеляніна, густая сінь і пералівы белага з сонечна-жоўтым) [22]. І гэта не дзіўна, бо пасля 1618 года, калі Смаленшчына зноў увайшла ў склад Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, умовы для з'яўлення нашых майстроў у Маскве сталі даволі спрыяльнымі. Аб тым, што на Смаленшчыне існавала ў першай палове XVII ст. мясцовая школа беларускіх кафляроў, сведчаць вынікі

археалагічных раскопак. Значная колькасць паліванай кафлі, уласцівай для ўсходняга беларускага рэгіёна, сабрана ў Смаленску і яго ваколіцах (Гнёздава) [23].

У XVII ст. мсціслаўскі кафляр Сцяпан Іваноў (Палубес), які доўгі час працаваў у Маскве, зрабіў керамічныя паліхромныя гарэльефы евангелістаў на царкве Успення ў Ганчарах. Такія віды архітэктурна-дэкаратыўнай керамікі не ўласцівыя для Беларусі, аднак захаваліся пісьмовыя крыніцы, якія сведчаць пра аздобу каляровай і пазалочанай глазураванай кафляй з выявамі святых у візантыйскім стылі аднаго з беларускіх храмаў канца XV — пачатку XVI ст. — царквы ў Кодне [24].

Надзвычай цікавай з'явай у беларускім кафлярстве канца XVI і XVII стст. была анімалістыка. Сярод шматлікіх выяў свойскіх і дзікіх жывёл, птушак, рыб можна вылучыць два падыходы да іх адлюстравання. Адзін — рэалістычны, там прасочваецца развіццё і станаўленне стылю ад першых натуралістычных адбіткаў з жывых ракаў і рыб, дзе майстар нібы яшчэ прыстасоўваўся да перадачы анімалістыкі — вывучаў пластыку, мову, тэхналогію — да выяў, зробленых прафесіянальна, з высокім майстэрствам, адчуваннем малюнка і характару жывёл.

Другі падыход характарызуецца адцягненай трактоўкай вобразаў. Выявы жывёл выкарыстоўваюцца для алегарычнай, іншамоўнай перадачы зместу згодна характару жывёлы. Яны надзяляюцца сімваламі, а арол асэнсоўваецца з цэнтралізацыяй улады, гонару, сілы. Коні, сабакі, ваўкі, шакалы, лісы, малпы, цмокі, вялікае мноства іншых выяў жывёл выкарыстоўвалася для перадачы патрэбнага зместу. Вельмі часта майстар, які ніколі не бачыў драпежных або фантастычных жывёл (як леў, шакал, арол, грыфон, цмок), маляваў іх па-свойму. У выніку з'яўляліся фантастычныя выявы, дзе ў звычайнага сабакі адрасталі непамерныя кіпцюры, зубы, маляваліся крылы; тулава гуся прыстасоўвалася да арлінай галавы. Ёсць зусім неверагодныя, незразумелыя выявы. Такая трактоўка анімалістычных выяў часцей за ўсё выкарыстоўвалася ў геральдыцы.

З сярэдзіны XVII ст. на змену зялёным прыходзяць кафлі, пакрытыя рудымі, карычневымі і светла-карычневымі

глазурамі, зафарбаванымі вокісламі жалеза і марганца. Гэта адпавядала новаму часу, новым сацыяльным уяўленням пра хараство і прыгажосць. Вытворчасць паліхромнай кафлі скарачаецца ў сярэдзіне — другой палове XVII ст., што звязана з заняпадам эканомікі Беларусі, выкліканым спусташальнымі войнамі. У гэтыя гады многія майстры па вырабу паліхромнай кафлі перасяляюцца ў Маскоўскую дзяржаву. Там наладжваюць вытворчасць не толькі пячной, але і архітэктурнай паліхромнай дэкаратыўнай керамікі, якой аздабляліся фасады храмаў і грамадскіх будынкаў. Так, напрыклад, у час пабудовы сабора Васкрасенскага манастыра скарыстана каля 60 тыпаў паліхромнай кафлі [25].

Але вытворчасць паліхромнай кафлі існавала на Беларусі і ў другой палове XVII ст. Шмат кафлі знайшлі ў Магілёве, асабліва на Падніколлі, дзе сяліліся члены магістрата, багатыя купцы і царкоўнікі. У асноўным сустракалася двухколерная кафля, палітая белай і кобальтавай глазурай. Падобная кафля-каронка знойдзена і ў Мсціславе. Каляровая гама некаторых фрагментаў больш багатая: акрамя глазуры згаданых колераў ужывалася зялёная і жоўтая. Трэба адзначыць, што ўсе вядомыя нам магілёўскія паліхромныя кафлі, знойдзеныя на Падніколлі, маюць нізкі рэльеф і аздоблены толькі раслінным арнаментам. Геральдычных сярод іх няма. І гэта не дзіўна, бо гандляры, якія жылі побач з Нікольскім манастыром, не мелі гербаў і не ўваходзілі ў склад шляхты.

Паліхромная геральдычная кафля вялікіх памераў, аздобленая выявай двухгаловага арла, знойдзена З. Яцкевічам у цэнтральнай частцы гістарычнага цэнтра г. Магілёва. Пры вырабе гэтай кафлі ўжыты рознакаляровыя палівы. Грывы львоў, што трымаюць геральдычны шчыт, жоўтыя, ніз тулава — сіні, хвасты — малочна-белыя. Знешняя абводка шчыта сіняя, а ўнутраная — жоўтая. Тулава двухгаловага арла мае карычневы колер, а лапы са скіпетрам і дзяржавай — жоўтыя. Рамка, што праходзіць па краях вонкавай пласціны кафлі, афарбаваная ў малочна-белы колер і спалучаецца з зялёна-блакітным колерам. Папярэдняя датыроўка гэтай кафлі — другая палова XVII ст.

Такім чынам можна засведчыць, што паліхромная рэль-

ефная кафля існавала ўсё XVII стагоддзе і нават сустракалася ў пачатку — першай палове XVIII стагоддзя.

Адначасова з паліванай увесь час выраблялася, даволі часта ў адных і тых жа гліняных ці драўляных формах, і непаліваная альбо тэракотавая кафля. Часам кафляры пакрывалі палівай толькі большую пярэднюю частку кутніх кафляў, якія складалі галоўны фасад кафлянай печы. Бакавыя ж часткі кутніх кафляў, якія выходзілі на бакавыя пячныя фасады, заставаліся без палівы. Даволі часта непаліваныя кафляныя печы бяліліся крэйдай.

Новай рысай канца XVII — пачатку XVIII ст. было распаўсюджанне "дыванавага" стылю. Яшчэ з паловы XVII ст. пачалося паступовае адмаўленне ад кампазіцыі, падпарадкаванай чатырохчаснай сіметрыі квадрата і выкарыстанне прамавугольных вонкавых пласцін з асіметрычным малюнкам. Такое вольнае размяшчэнне кампазіцыі і дазволіла малюнак як бы перакінуць на другія кафліны. Знікае рамка, якая аблямоўвала кафлю, а малюнак стаў падпарадкоўвацца прынцыпам сетчага арнаменту, дзе кожная кафліна была рапортам. Такі прынцып малюнка шырока ўжываўся ў тэхналогіі ткацтва. Дывановы стыль абагульняў кампазіцыю, звязваў печ у адзіную лінейна-каляровую пляму, дапамагаў сінтэзу паверхні печы і сцен, драпіраваных тканінамі, пераклікаўся з ляпнінай столі і паркетам падлогі.

Варта адзначыць, што прадумова ўзнікнення дыванавага стылю ўзнікла яшчэ ў XVI ст. Пад час нашых раскопак у Лідскім замку была знойдзена зялёная паліваная кафля другой паловы XVI ст., вонкавая пласціна якой аздоблена складаным раслінным арнаментам, прычым рамка з аднаго боку адсутнічае [26]. У люстэрку пячной аблямоўкі з такіх кафляў складаліся пэўныя сюжэты. Дывановая кафля першай паловы XVII ст. была знойдзена І. Чарняўскім у Магілёве. Вонкавыя пласціны зялёных паліваных кафель аздоблены геаметрычным і раслінным арнаментам і маюць па краях нешырокую рамку. Пры спалучэнні гэтых кафляў у адпаведным парадку на паверхні печы атрымліваліся вялікія і малыя кругі, ў сярэдзіне якіх знаходзіліся малюнкі разетак ці кветак. У другой палове XVII ст. з краёў вонкавых пласцін кафлі з "дывановым малюнкам" канчаткова знікае рамка, а ў

якасці аздаблення выкарыстоўваецца стылізаваная валошка. Шмат такой кафлі знойдзена ў Полацку, Віцебску, Мсціславе і іншых беларускіх гарадах. Сустракаюцца непаліваныя, паліваныя і паліхромныя экземпляры. Цікавую паліхромную "дывановую" кафлю, аздобленую светла-зялёнай і белай палівай, знайшла Т. Бубенька пры раскопках Вакольнага горада Віцебска.

У пачатку XVIII ст. на змену рэльефным паліхромным кафлям прыходзяць распісныя, з роўнай паверхняй, так званы "галандскі тып". І зноў пераход адбываецца паступова. Змены добра прасочваюцца на матэрыялах археалагічных даследванняў у Віцебску, праведзеных Т. Бубенькай у 1982 г. Спачатку гэта кафлі з традыцыйным па характары малюнкам, якія адносяцца да XVII ст. Потым рэльефны малюнак набывае новыя рысы, тыповыя для XVIII ст. У адным выпадку рэльеф павышаецца і глазуруецца ў адзін тон (часцей белы), у другім застаецца без змен, але каляровая палітра спрашчаецца і па белым тоне рэльеф размалёўваецца кобальтам [27]. І, нарэшце, з'яўляецца кафля з гладкай паверхняй, распісаная кобальтам. Такая каляровая палітра была сугучна новаму гістарычнаму асяроддзю, ідэям класіцызма.

У некаторых гарадах, напрыклад, у Магілёве і Віцебску яшчэ да другой паловы XVIII ст. выраблялiся рэльефныя кафлі, пакрытыя рознымі глазурамі і аздобленыя ў стылі позняга барока альбо ракако. У канцы XVII — першай палове XVIII ст. шырокае распаўсюджванне ў Мсціславе атрымала кафля пераходнага тыпу да гладкай распісной. Масіўная (таўшчыня пласціны 1,4 — 1,6 см) бязрамачная кафля выраблялася ў тэхніцы высокага рэльефу і пакрывалася белай ці карычневай палівай. Белыя кафлі часта распісвалі па рэльефе сіняй альбо зялёнай фарбай. Часам спачатку наносілі сінюю паліву, а ўжо потым — белую фонавую. Значна прасцейшым стаў і арнамент. Найбольш характэрнай для мсціслаўскай кафлі першай паловы XVIII ст. з'яўляецца выява выпуклага медальёна ў складанай познебарокавай абрамоўцы [28].

У канцы XVIII — пачатку XIX ст. у Мсціславе выраблялася гладкая кафля, пакрытая зялёнай, белай альбо карыч-

невай палівай. Геаметрычным арнаментам у гэты час аздабляліся толькі кафлі-каронкі [29].

У XVIII ст. антрапаморфныя выявы на беларускай кафлі таксама вядомы, але ў меншай колькасці: гэта малюнкі вершніка (Гродна), ганчара (Палессе) і сюжэтныя сцэны на распіснай кафлі сярэдзіны — другой паловы XVIII ст. (Мазыршчына).

У сярэдзіне XVIII ст. на Беларусі была пашырана гладкая і рэльефная кафлі, пакрытыя цёмна-карычневай палівай. На некаторых карычневых кафлях бессістэмна нанесены плямы белай палівы.

У XVIII ст. на Беларусі ўжывалася таксама кафля галандскага тыпу, распісаная вогнетрывалымі фарбамі па сырой белай паліве. Значную калекцыю такой кафлі, знойдзенай у Віцебску, апрацавала і надрукавала В. Ляўко. Да першай групы Віцебскай распіснай кафлі адносіцца квадратная сцянная кафля (20 х 20 см) пакрытая белай эмаллю і аздобленая па краях сінім раслінным арнаментам у выглядзе рамкі шырынёй 3 см. Вонкавыя пласціны кафлі другой групы таксама размаляваныя сіняй фарбай па белым фоне, аднак у сярэдзіне пласціны размешчаны малюнак галандскага дамка — пашыранага сюжэта сярэдзіны XVIII ст. Трэцяя група распісной Віцебскай кафлі прадстаўлена сцяннoй кафляй, аздобленай шматколерным роспісам з раслiннымі або геаметрычнымі сюжэтамі [30].

Трэба адзначыць, што існавала камбінаваная кафля, калі ў рэльефную рамку ў выглядзе познебарокавага картуша, з дапамогаю роспісу (у цэнтральнай частцы вонкавай пласціны) упісвалася жанравая ці бытавая сцэнка [31].

Падчас нашых раскопак на Старым замку ў Гродне знойдзены рэшткі распіснай печы XVIII ст., у якой уся паверхня была распісана кветкамі (сіні кобальт на белай эмалі).

У XVIII ст. разам з фаянсавым посудам выраблялася і фаянсавая кафля, аб чым сведчыць апісанне Свержаньскай фарфорні 1765 года. На тэрыторыі мануфактуры існаваў асобны драўляны будынак, дзе выраблялі кафлю [32].

На працягу XVIII ст. важнае месца ў арганізацыі інтэр'ераў па-ранейшаму адводзіцца кафляным печам. Нягледзячы на ўплыў матываў класіцызма ў архітэктуры пала-

цаў і сядзіб, іх інтэр'еры яшчэ доўгі час насілі рысы позняга барока і ракако. Застаецца цяга праславіць асобу гаспадара, паказаць яго грамадска-эканамічны статус. Сцены інтэр'ераў напаўняюцца шматколернай скульптурай, ляпнінай, разьбой. Шырока выкарыстоўваўся мармур, крышталь, пазалочаная бронза. У каляровым рашэнні інтэр'ераў пераважалі пастэльныя таны. Сцены парадных залаў упрыгожваліся вялізнымі карцінамі, акантаванымі багата арнаментаванымі рамамі і багетамі.

Не ўступалі гэтаму гучанню і кафляныя печы. У пачатку XVIII ст. паступовa на змену рэльефным паліхромным кафлям прыходзяць распісныя з гладкай паверхняй. Змены адбываліся паступовa і ў некалькіх напрамках. З аднаго боку, традыцыйны рэльеф застаецца без змен, але каляровая палітра спрашчаецца, па белым фоне рэльеф размалёўваецца кобальтам. Потым рэльеф знікае, і ўжо гладкая белая паверхня распісваецца сінім кобальтам, зялёнымі, жоўтымі і карычневымі эмалямі. Маляваліся галінкі, кветкі, букеты. З другога боку, рэльеф павялічваецца, пераходзячы ў гарэльефы і аб'ёмную скульптуру, якія ўпрыгожвалі куты печы, фрызы і цокаль. Выкарыстоўваюцца балясіны, вітыя пілоны. Пад уплывам класіцызма ўваходзяць у моду вялікія роўныя паверхні печаў у спалучэнні з высокім гарэльефам. Характэрным становіцца геаметрычнасць, ураўнаванасць, падпарадкаванасць сіметрыі галінак дуба ці лаўра, сплеценых ў гірлянды, вянкі, букеты, з'яўляюцца геаметрызаваныя матывы: ромбы, разеткі, картушы.

Як палацы, так і іх інтэр'еры падпарадкоўваліся адзіным мастацка-дэкаратыўным формам і прыёмам. Складаюцца печы ў выглядзе калон, ярусных цыліндраў, абеліскаў, якія ставіліся на багата дэкарыраваныя цокалі. Верхняя частка печы ўпрыгожвалася прафіліраванымі франтонамі, карнізамі, гарэльефнай ляпнінай з выявамі завіткоў, перавітых жгутоў, маскаронаў, німф. Раслінна-фігуратыўны гратэск, складзены з чалавечых фігур, жывёл, раслін пераходзіў у рытмічны арнаментальны ўзор. Своеасаблівае кампазіцыйнае рашэнне — белая гладкая паверхня і спалучэнне гарэльефных і скульптурных уставак — падпарадка-

ванае сіметрычнай схеме, стварала высока эмацыянальнае ўражанне (як, напрыклад, печ з маёнтка Радзівілмонты).

Вытворчасць кафлі, у якой высокі рэльеф месцамі пераходзіў у скульптурныя элементы, са значна ўзрослымі памерамі, ужо не ўкладвалася ў рамкі былой тэхналогіі. На змену гліняным і драўляным формам прыходзіць гіпсамадэльная справа, якая прыўнесла новую якасць і значна павысіла культуру вытворчасці.

З другой паловы XVIII ст. у выяўленчыя дэкаратыўныя матывы аздаблення печаў пачынаюць уваходзіць роспісы з гістарычнай тэматыкай, батальнымі і жанравымі сцэнамі, пейзажамі. Прыкладамі для роспісу на кафлі служылі карціны замежных і мясцовых мастакоў, ілюстрацыі з кніг, абразы, вырабы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

Да нашых часоў захавалася ўнікальная печ, аблямаваная распісной кафляй XVIII — пач. XIX ст. у шляхецкай сядзібе Жамыслаў Іўеўскага раёна Гродзенскай вобласці. Гэта складаная двухпавярховая пабудова шматграннай формы. Ніжняя і верхняя часткі печы аблямаваны кафляй з раслліннымі ці геаметрычнымі сюжэтамі. Цэнтральную частку печы складаюць кафліны з рознымі сюжэтнымі сцэнкамі.

Побач з кафлямі складанай канфігурацыі, пакрытымі белымі эмалямі і ўпрыгожанымі роспісам, працягвала бытаваць кафля традыцыйная, палітая празрыстымі зялёнымі, карычневымі, рудымі глазурамі, дэкарыраваная матывамі, распрацаванымі яшчэ ў канцы XVI — пачатку XVII ст. Такая з’ява тлумачыцца тым, што разам з фабрыкамі, падпарадкаванымі заможным уладальнікам, якія выконвалі заказы найбольш багатай часткі насельніцтва, працягвалі існаваць шматлікія саматужныя ганчарныя майстэрні з больш таннай прадукцыяй, якія і ўносілі ў вытворчасць своеасаблівы народны каларыт. Багатыя заказы спрыялі дыферэнцыяцыі ганчарнай вытворчасці, якая назіраецца з канца XVIII ст.

Вялікі попыт на кафляныя вырабы, новая тэхналогія з прымяненнем гіпсавых форм, адказ ад ганчарнага кола, грамадска-сацыяльныя змены, разлад цэхавай сістэмы рамеснікаў, падзел працы ствараюць умовы для вылучэння

кафляной вытворчасці ў самастойную галіну. Акрамя магнацкіх фабрык і заводзікаў пачынаюць узнікаць прадпрыемствы капіталістычнага тыпу па выпрацоўцы кафлі.

У канцы XIX ст. на беларускіх землях існуе сетка кафляных заводаў, што ўзніклі ў традыцыйных месцах ганчарнай вытворчасці.Гэта — Бабруйск, Барысаў, Віцебск, Шклоў, Копысь, Крупкі, Мінск, Навагрудак, Прапойск (Слаўгарад) і іншыя. Прадукцыя гэтых заводаў задавальняла не толькі ўнутраны рынак, але ішла і далёка за межы тагачаснага "Северо-Западного края".

У пачатку XX ст. паступова мяняецца тэхнічнае абсталяванне кафляной вытворчасці. Замест фармоўкі ў гіпсавых формах пачынае ўжывацца штамп і прэс з металічнымі формамі. У гэты час дэкор кафляных печаў адпавядае архітэктурнаму стылю мадэрн. Аднак у 20 — 30-х гадах адбываецца паступовы заняпад вытворчасці, што выклікана новым укладам жыцця, калі на змену традыцыйным кафляным печам прыйшло газавае і электрычнае, а таксама паравое ацяпляльнае абсталяванне.



Эвалюцыя еўрапейскіх печаў паводле Р. Франц



Тыпалогія развіцця кафлі. Лідскі замак



Гаршковая кафля XIV—XV стст. Лідскі замак. *Раскопкі А. Трусава*



Ґанчарнае кляймо на донцы гаршковай кафлі XIV ст. Лідскі замак. *Раскопкі А. Трусава*




| ⌀ \ N | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ∅ вусця | 12,5 | 15,0 | 12,0–12,0 | 16,0 | 11,0 | 13,5 | 11,5 | 15,5 | 12,0 | 12,0 | 8,5 | 11,5–11,5 |
| ∅ донца | 7,0 | 13,0 | 7,0 | 11,0 | 7,5 | 10,0 | 8,0 | 9,5 | 8,5 | 7,0 | | 10,0 |

**замак у Крэве**

0 5 10 15 см

Табліца гаршковай кафлі XIV—XVI стст. Крэўскі замак. *Раскопкі М. Ткачова і А. Трусава*



**Гаршковая кафля канца XV — пач. XVI ст. Крэўскі замак.**
*Раскопкі М. Ткачова і А. Трусава*



Гаршковая кафля XVI ст. Крэўскі замак. *Раскопкі А. Трусава і М. Ткачова*



Кафля канца XV ст., г. Копысь. *Раскопкі Г. Штыхава*




Партрэтная кафля XVI ст., г. Мазыр. *Раскопкі А. Трусава*



**Партрэтная кафля XVI ст. з Лагойска.** *Раскопкі Г. Штыхава*



Кафля-каронка XVI ст. *Раскопкі Г. Сагановіча*




Паліваная кафля XVI ст. Мінскі раён, в. Гарадзішча.
*Раскопкі Г. Штыхава*



Мінская геральдычная кафля XVII ст.



Паліхромная кафля канца XVI — пач. XVII ст. Мірскі замак. *Раскопкі А. Трусава*



Паліхромная кафля XVIII ст., г. Віцебск.



Дывановая паліваная кафля першай паловы XVII ст.
*Раскопкі І. Чарняўскага*



Паліваная кафля канца XVI ст. Крэўскі замак. *Раскопкі М. Ткачова і А. Трусава*



Паясковая кафля XVII ст., г. Чачэрск. ***Раскопкі І. Чарняўскага***



**Кутняя непаліваная кафля другой паловы XVII ст. Мірскі замак.** *Раскопкі А. Трусава*





Віцебская кафля канца XVII — пач. XVIII ст. *Раскопкі Т. Бубенькі*



Гзымсавая кафля пачатку XVII ст., г. Лагойск. *Раскопкі Г. Штыхава*



Кафля пачатку XX ст. г. Магілёў. *Раскопкі І. Сінчука*



Рэшткі горана, канец XVI — пач. XVII ст., г. Мінск. *Раскопкі В. Собаля*



Горан XVII ст. з мястэчка Мір. *Раскопкі А. Краўцэвіча*



Рэканструкцыя печы з Заслаўя. Пач. XVI — канец XVII ст.
*Паводле Ю. Зайца*



Печка XVII ст., г. Слонім. Архіўны здымак



**Рэканструкцыя печкі з гальшанскага замка, першая палова XVII ст.** ***Мастак Э. Дзмітрыеў***



Рэканструкцыя гальшанскай печкі XVII ст. *Мастак Э. Дзмітрыеў*



Печка XVII ст. у Каломенскім, г. Масква. *Работа беларускіх майстроў*



Печка канца XVIII — пач. XIX ст. Гродзенская вобласць, Іўеўскі раён, в. Жамыслаў. *Фота А. Кушнярэвіча*



Печка канца XVIII — пач. XIX ст. Гродзенская вобласць, Іўеўскі раён, в. Жамыслаў. *Фота А. Кушнярэвіча*



Печка канца XIX — пач. XX ст., г. Іўе, касцёл Пятра і Паўла.
*Фота А. Кушнярэвіча*



Печка пачатку XX ст., г. Іўе, касцёл Пятра і Паўла.
*Фота А. Кушнярэвіча*



Печка XX ст. Гродзенская вобл., Іўеўскі раён, в. Жамыслаў.
*Фота А. Кушнярэвіча.*



Фрагмент печкі з савецкай сімволікай, 20—30-я гады XX ст., г. Мінск, Лошыца

## СПАСЫЛКІ


1. Филиппов А.В. Древнерусские изразцы. М., 1938. Вып. 1. С. 11.
2. Паничева Л.Г. Изразцы и изразцовые печи позднесредневекового Полоцка // Советская археология. 1981, №3.
3. Высоцкая Н.Ф. Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва Беларусі XII — XVIII стагоддзяў. Мінск, 1984. С. 81.
4. Паничева Л.Г. Полоцкая архитектурно-декоративная керамика XIV — XVII вв. // Краткие сообщения Института археологии АН СССР. 1980. Вып. 160. С. 55.
5. Княжеский дворец вильнюсского Нижнего замка. (Исследования 1988 года). Вильнюс, 1989. С. 94. Рис. 47, 48, 52—54.
6. Краўцэвіч А.К. Гарады і замкі беларускага Панямоння XIV — XVIII стст. Планіроўка, культурны слой. Мн., 1991. С. 123. Мал. 34: 1, 7.
7. Штыхов Г.В. Раскопки близ Минска // Археологические открытия 1983 года. М., 1985. С. 415.
8. Кубе А.Н. История фаянса. Берлин, 1923. Табл. III.
9. Таутавичюс А. Изразцы Вильнюсского замка (XVI — XVII вв.). Вильнюс, 1969. С. 43.
10. Заяц Ю., Ляўко В. Беларуская кафля з выявай чалавека // Мастацтва Беларусі. 1984. №4. С. 55.
11. Кацер М.С. Народно-прикладное искусство Белоруссии. Минск, 1972. С. 51—52.

12. Зайцава В.Я. Кафля XVI — XVII стст. з Друі // Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук. 1990, №1. С. 81. Мал. 1:3.
13. Беларуская кафля. Мінск, 1989. С. 30. Мал. 16, 17.
14. Трусаў А. Вобраз спрадвечны і вечны. Антрапаморфныя выявы на беларускай кафлі XV — XVII стст. // Мастацтва Беларусі. 1991, №10. С. 65—66.
15. J. Genys, V. Zulkus. Fachverkni XVI pastat liekunos Klaipedoje/ Kurpi gatveje // Architekturos Paminklai. Vilnius, 1982. t VII. P. 52, 61. Pav. 11--13.
16. Таутавичюс А. Изразцы Вильнюсского замка (XVI — XVII вв.). Вильнюс, 1969. С. 42.
17. Осе И. Возникновение изразцовых печей в Латвии // Археология и история западных балтов. Клайпеда, 1989. С. 141.
18. Заяц Ю.А. Заслаўская кафля. Мінск, 1990. С. 21.
19. Зайцава В.Я. Кафля XVI — XVII стст. з Друі // Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук. 1990, №1. С. 83
20. Ганецкая І. У. Мастацкая кераміка Мсціслава // Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук. 1990. №1. С. 75.
21. Трусаў А. Вобраз спрадвечны і вечны. Антрапаморфныя выявы на беларускай кафлі XV — XVII стст. // Мастацтва Беларусі. 1991, №10. С. 64.
22. Мельнік І. Жывое цяпло паліхромнай кафлі // Мастацтва Беларусі. 1987. № 7. С. 65.
23. Юркина Т.В. Смоленские изразцы // Проблемы истории СССР. М., 1977. Вып. 1. С. 16.
24. Квитницкая Е.Д. Малоизвестные зальные сооружения Белоруссии конца XV — начала XVI вв. // Архитектурное наследство. М., 1967. Вып. 16. С. 9.
25. Панічава Л.Р. Беларускія цаніннікі ў Маскве // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1976. № 3. С. 32.

26. Трусаў А.А., Угрыновіч У.В. Тыпалогія і храналогія лідскай кафлі // Помнікі мастацкай культуры Беларусі: Новыя даследаванні. Мінск, 1989. С. 198.
27. Беларуская кафля. Мінск, 1989. Мал. 160, 167, 168.
28. Ганецкая І.У. Мастацкая кераміка Мсціслава. С. 76.
29. Трусаў А.А., Ткачоў М.А. Старажытны Мсціслаў. Мінск, 1992. С. 40.
30. Левко О.Н. Витебские изразцы XIV — XVIII вв. Минск, 1981. С. 34--38.
31. Беларуская кафля. Мінск, 1989. Мал. 169.
32. Цэнтральны гістарычны архіў Рэспублікі Беларусь. КМ4-5, воп. 1. Справа 2676/1. С. 90.

*Трусаў Алег Анатольевіч*

# БЕЛАРУСКАЕ КАФЛЯРСТВА


Рэдактар *А. Селязнёва*
Вокладка мастака *Э. Дзмітрыева*
Тэхнічны рэдактар *Г. Раманчук*

Арыгінал-макет выкананы
на настольна-выдавецкай сістэме БелІПК

Падпісана да друку 12.03.93. Фармат 84 x 108/32
Папера афсетная. Умоўн. друк. арк. 2,94.
Ум. фарб.-адб. 3,26. Ул.-выд. арк. 3,0.
Тыраж 5000 экз. Зак. 477 . Ліцэнзія ЛВ № 362.

Беларускі інстытут праблем культуры.
220086, г. Мінск, вул. Каліноўскага, 12.

Друкарня "Перамога". 222310, г. Маладзечна, вул. Таўлая, 11

